
Вярнуць бацькаўшчыну! → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


БНР і беласточчына → 8-9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 18 (3234) Год LXIII | Беласток, 6 мая 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Члены Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей 25 красавіка на выязным пасяджэнні спаткаліся ў Гайнаўцы з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый і самаўрадаўцамі, каб даведацца пра праблемы і поспехі беларусаў, пражываючых на Падляшшы. Пазней дэпутаты Сейма ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы пазнаёміліся з умовамі адукацыі белліцэістаў і белгімназістаў, з пазаўрочнай дзейнасцю школы, пабывалі ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы. Дзень раней члены сеймавай камісіі спаткаліся ў Беластоку з прадстаўнікаміінацыянальных і этнічных меншасцей Падляшша.**

Фота і тэкст **Аляксея МАРОЗА**

# Пра праблемы і поспехі беларусаў Падляшша



■ Члены Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей 25 красавіка на выязным пасяджэнні спаткаліся ў Гайнаўцы з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый і самаўрадаўцамі

Выязное пасяджэнне Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей, якое адбылося ў зале магістрата Гайнаўкі, тычылася беларускай нацыянальнай меншасці, яе праблем і поспехаў. Сустрэчу вяла старшыня камісіі Данута Петрашэўская. Спачатку сабраныя заслухалі інфармацыю Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі на тэму сітуацыі і праблем беларускай меншасці ў Польшчы і Міністра нацыянальнай адукацыі на тэму адукацыі беларускай меншасці ў Польшчы (пазней удзельнікі спаткання атрымалі інфармацыю ў пісьмовай форме). Сабраныя даведаліся, што ў 2017/2018 школьным годзе беларускай мове вучылася 2828 дзетак і моладзі ў 33 школах і прадшколлях Падляшскага ваяводства. Беларускай мове вучыцца 167 дашкольнікаў, 1765 вучняў пачатковых школ, 442 гімназісты і 454 ліцэісты. Паводле прад'яўленай інфармацыі адукацыя на беларускай мове 131 дзіцяці ў Беластоку адбываецца комплексна. У бягучым школьным годзе стаў дзейнічаць Міжшкольны пункт навучання беларускай мове ў Варшаве, дзе займаецца 10 дзетак. У час спаткання гаварылася пра запатрабаванне на новыя падручнікі па беларускай мове. У 2016 годзе на навучанне беларускай мове з бюджэту Міністэрства адукацыі выдаткаваных было 11 мільёнаў 789 тысяч злотых. У 2017 годзе з бюджэту Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі на ахову і падтрыманне культуры беларусаў было выдадзены 2 мільёны 338 тысяч злотых. У 2018 годзе для гэтых мэт адведзена ўжо 1 мільён 629 тысяч злотых, але гэтая сума будзе яшчэ пабольшана.

— Меншае колькасць сродкаў, якія выдзяляюцца з дзяржбюджэту на дзейнасць беларускай меншасці ў Польшчы, — заявіў старшыня Беларускага саюза ў РП **Яўген Вапа**, які першым узяў голас у дыскусіі. Пытаў ён членаў камісіі, чаму на гайнаўскую сустрэчу не запрасілі старасту і войтаў гмін Гайнаўскага павета, перш за ўсё войтаў Чыжоўскай і Дубіцкай гмін, у якіх падчас апошніх перапісаў насельніцтва найбольшы адсотак жыхароў, у параўнанні да іншых нашых гмін, назвалі сябе беларусамі. Звярнуў ён таксама ўвагу, што на спатканне не быў запрошаны дырэктар Бельскага белліцэя. Яўген Вапа прапанаваў заснаваць Цэнтр беларускай культуры, які фінансаваўся б дзяржаўным і самаўрадавымі бюджэтамі і апрача непасрэднай дзейнасці ў карысць развіцця беларускай культуры дапамагаў бы беларускім арганізацыям пісаць праекты, здабываць уласныя ўклады для іх рэалізацыі і разлічваць мерапрыемствы беларускіх арганізацый. Старшыня Беларускага саюза пакрытыкаваў патрабаванні Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі пры размеркаванні сродкаў на дзейнасць арганізацый нацыянальных меншасцей. Напрыклад, патрабуецца, каб у праектах многа месяцаў раней напісаць дзень і гадзіну пачатку мерапрыемства і дакладную колькасць яго ўдзельнікаў. Гэта складана прадбачыць, паколькі здараецца, што частка запрошаных гасцей з Рэспублікі Беларусь не даязджае на час або ўвогуле не прыязджае з-за затрымання на мяжы або іншых перашкод і на іх месца трэба запрашаць іншыя асобы, а нават адтэрміноўваць мерапрыемства. Яўген Вапа пытаў таксама чаму Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі не прызначыла сродкаў на адзначэнне 60-годдзя дзейнасці Літаб'яднання «Белавежа» і сарганізаванне канферэнцыі, прымеркаванай да сотай гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі.

— Наш рэгіён адстае эканамічна ад развітых рэгіёнаў Польшчы. Адбываецца міграцыя нашага насельніцтва з вёсак і мястэчак у вялікія гарады і ў выніку наш рэгіён становіцца бязлюдным. Важная наша будучыня ў культурным, эканамічным і дэмаграфічным планах. Тут адмоўна ўздзейнічае на нас перш за ўсё дрэнная дэмаграфія на працягу многіх гадоў. Калі зараз у краіне дасягнуты лепшыя эканамічныя вынікі, то мы, як нацыянальная меншасці нашай краіны таксама хочам адчуць большую дапамогу для дзейнасці нашых меншасцей, — гаварыў **Яўген Вапа**.

Прадстаўніца Сакратарыята Сеймавай камісіі патлумачыла, што на спатканне запрашаліся перш за ўсё прадстаўнікі беларускіх арганізацый, якіх спіс быў узяты з ваяводскай управы і было яно адкрытае для ўсіх ахвотных. Гаварыла яна таксама пра «закароткую коўдру», калі параўнаць патрэбы меншасных арганізацый і дзяржбюджэтныя сродкі ім прызначаныя.

— Я прапаную арганізаваць у школах навучанне гісторыі і культуры нацыянальных меншасцей, каб польскае грамадства даведалася пра нацыянальныя меншасці Падляшша. Ужо абрыдла слухаць, што нас сюды прывёз цар, і іншыя падобныя выказванні наконт беларусаў, літоўцаў і іншых меншасцей, — заявіў прафесар **Алег Латышонак** з Універсітэта ў Беластоку.

— Юбілеі важныя нашым арганізацыям і мы хадайнічаем за сродкі, каб іх ладзіць. Наша Аб'яднанне АБ-БА за невялікія сродкі наймае інструктараў для танцавальнага і іншых нашых беларускіх калектываў, а дадатковыя заняткі арганізуем у падвале будынка школы. Выдаем часопіс «Беларускі настаўнік», падручнікі і дыдактычныя матэрыялы. На дзейнасць беларускіх арганізацый патрэба больш фінансавых сродкаў, — заявіла старшыня Аб'яднання ў карысць дзяцей і моладзі, якія вучацца беларускай мове АБ-БА **Кацярына Паўлоўская**.

Падчас сустрэчы гаварылася таксама пра паменшаныя субвенцыі на навучанне беларускай мове ў невялікіх школах.

— Беларусаў у Польшчы некалькі разоў больш, чым паказваюць перапісы насельніцтва. Аднак у нашым грамадстве нізкая нацыянальная свядомасць і гэта, між іншым, знаходзіць адлюстраванне ў перапісах насельніцтва. Мы павінны супольна працаваць, каб павысіць нацыянальную свядомасць сярод беларусаў, а ў гэтым працэсе побач сям'і вельмі важныя намаганні школ, у вялікай ступені з выкарыстаннем пазаўрочных заняткаў. Пры нашым ліцэі хочам стварыць пачатковую школу з дадатковым навучаннем беларускай мовы. Ініцыятыва выйшла ад бацькоў першакласнікаў. Разлічваем на прыхільнае стаўленне самаўрадаў да гэтай адукацыйнай прапановы, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белліцэя **Ігар Лукашук**.

Некалькі асоб звярталі ўвагу, што Міністэрства культуры не прызначыла грошай для Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» і прасілі дэпутатаў дапамагчы атрымаць грошы. У мінулых гадах гэты міжнародны фестываль карыстаўся фінансавай падтрымкай дзяржбюджэту і праходзіў пад патранатам прэзідэнта РП Анджэя Дуды.

— Рада горада Гайнаўкі выступіла да Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі Іаахіма Брудзінскага з прапановай так змяніць закон аб згуртаваннях і сходах, каб арганізацыя маршаў памяці выклятых жаўнераў, якія ладзяцца ў Гайнаўцы, не была магчыма ў такой форме як дагэтуль. Гэтыя маршы і іх лозунгі — прыкрыя для насельніцтва Гайнаўкі. Калі будзе мне

працяг ☞ 10





# Між іншым

Даўно не глядзеў я выступ кіраўніка Беларусі, які называецца Пасланнем беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу. А гэтым разам інтуіцыя падказала, што трэба глянуць. І не толькі таму, што гэтай прамовай мусіць зацікавіцца кніга рэкордаў Гінеса, бо наўрад ці яшчэ які кіраўнік дзяржавы з афіцыйным тытулам прэзідэнта ажно столькі разоў прамаўляў сваё штогадовае пасланне. А больш таму, што гэтым разам яно кардынальна адрознівалася ад ранейшых, і аніякага пачуцця дэжавю, як мінулыя разы, я не адчуў.

А розніца з былымі пасланнямі была відавочнай яшчэ задоўга да пачатку цяперашняга. Яго нават не рэкламавалі так, як тыя. Інфармацыю пра гэты выступ начальніка краіны, калі параўнаць з ранейшымі, можна назваць нечакана сціплай. З яе мы даведаліся, што трансляваць пасланне будуць усяго толькі тэлеканалы „„Беларусь-1" і „Беларусь-24" ды яшчэ радыё. Для краіны з такім ладам як наша гэта вышыня сціпласці. Мы з часоў СССР прызвычаіліся да таго, што выступ кіраўніка краіны „транслююць усе радыёстанцыі Савецкага Саюза". Беларусь мінулых гадоў не была выключэннем. А тут такая нечаканасць.

У чым жа справа? Відаць, не для шырокай публікі гэты выступ, хоць і называецца для народа і парламента. Напэўна ён для канкрэтных кропкавых адрасатаў, якія шырокай аўдыторыяй „Беларусь-1" і блізка не з'яўляюцца, а можа і не ведаюць пра існаванне такога тэлевізійнага цуду. І змест прамовы гэта ўскосна пацвярджае. Канешне, гэта маё суб'ектыўнае меркаванне, але глядзіце самі. Ну як можна па-іншаму ўспрыняць разважанні ў сувязі з падзеямі ў Арменіі, дзе выступоўца адказнасць не столькі за цяперашнія армянскія падзеі, але і за ранейшую вымушаную неабходнасць армянскім урадам павысіць кошты на газ звязвае з калектыўным, і нават з канкрэтна расійскім пралікам. Маўляў, трэба лепш Расіі думаць пра суседзяў, а то нас „у лепшым выпадку павыдзіраюць з гэтага саюза".

Дарэчы, не толькі пра адказнасць за сітуацыю ў Арменіі праслізнулі папрокі ў бок Расіі. Звязана гэта з гандлёвымі войнамі, дзе беларускія тавары пачалі штучна выцясняцца з расійскага рынку, ці са значна большым букетам прэтэнзій, гэта не важна. Пасланне пайшло да свайго адрасата. І хай ён думае, як сябе паводзіць са сваімі хаўруснікамі, бо ў іх яшчэ ёсць выбар. Ды і сумневы пра атамную станцыю, што „кіраўніку краіны яшчэ па сённяшні дзень так даходліва і не растлумачылі як яна ўладуецца ў нашу эканоміку", таксама пасланні на вонкі. Думаю ва ўсе бакі.

Для Еўропы, Амерыкі і іншага цывілізаванага свету было задэкларавана, што Беларусі не патрэбна глабальная палітыка. Вось так вось! Больш не патрэбная! Ад нас, маўляў, будуць зыходзіць выключна мірныя ініцыятывы. І як бы ў дадатак прагучалі ці то сцвярджэнні, ці то пажаданні, што каляровыя, ці якія яшчэ там рэвалюцыі, нам таксама вельмі не патрэбныя. Выглядае ўсё як прапанова баш на баш. Вы, маўляў, да нас не лезьце са сваёй дэмакратыяй, а мы вам не будзем псаваць настрой. Хай разумеюць як хочуць. А ў пацвярджэнне міралюбівасці прагучала наша пазіцыя па Сірыі, дзе былі пакрыты сорамам усе. Маўляў, вымятайцеся адтуль да аднаго. Дайце сірыйцам ужо адпачыць ад вас.

Беларускія чыноўнікі таксама пачулі пару слоў у свой бок. Ім яшчэ раз прапанавана добра падумаць, перш чым што зрабіць не так. А вось пра тое, што кіраўнік Беларусі ні пра якія рэферэндумы і змены ў Канстытуцыю нават не думаў, не ведаю для каго было сказана. Ну не для апазіцыі ж! З якога ражна з ёй пачынаюць лічыцца?! Наўрад ці падзеі ў Арменіі маглі так паўплываць. Хутчэй за ўсё гэта таксама для Захаду.

Словам, усе адрасаты атрымалі прадуманыя і ўзважаныя пасылы.

А, між іншым, што ж было для народа?! Бо і пра пагрозы ледзяной вайны, і пра шматвектарнасць, і пра глабальныя гандлёвыя войны, і пра эскалацыю напругі, і пра праблемы з бліжэйшымі саюзнікамі, яму, народу, ужо хіба што не зусім зразумела і зусім не цікава. Ці скажам, а што для парламента? А вось парламентары прысутнічалі. Спатрэбіліся і тут. Сядзелі, слухалі, пагаджаліся... у густоўна аздобленай зале. А як інакш. Для такога прадуманага і ўзважанага паслання патрэбна адпаведная дэкарацыя.

Віктар САЗОНАЎ

# І вось як справы маюцца



Няма нічога больш упартага, чым чалавечыя перакананні і нічога больш зменлівага, чым чалавечыя погляды. Ідучы за прымаўкай, што толькі карова не мяняе поглядаў, ніхто не хоча брацца з яе светлага прыкладу. Карова дае малако, насуперак сваім натуральным інтарэсам ці асабістым поглядам, але ў адпаведнасці з быдлячым перакананнем, што калі не дасць, яе зарэжуць як непатрэбную. Прыклад каровы паказвае рэальную сувязь, якая існуе паміж перакананнем і пунктам гледжання — чаго б яны не датычылі. Перакананне абыдзецца без погляду, а той, у сваю чаргу, не мае ніякай вартасці, калі не заснаваны на нейкім перакананні. Але давайце пакінем карове яе ўласныя праблемы і засяродзімся на тым, што чалавечае.

Чалавечая рэч — мяняць погляды. Гэта дрэнна і добра адначасова. Дрэнна таму, што мы хацелі б засноўваць свае веды аб свеце на чымсьці нязменным, пастаянным, пазачасавым. Але добра таму, што свет, дакладней нашы веды пра яго, пастаянна мяняюцца, таму мы павінны пастаянна пацвярджаць свой пункт гледжання. Не адносіцца гэта да перакананняў. Нягледзячы на выразныя доказы таго, што Зямля не плоская, як блін, многія адукаваныя людзі кажуць, што гэта хлусня, настойваючы на сваім меркаванні. Зямля — як блін, і баста! Пра непагасную спрэчку крэацыяністаў, перакананых у тым, што Бог стварыў Зямлю і чалавека 7 тысяч гадоў таму, з эвалюцыяністамі, якія даказваюць, што зямны шар быў сфармаваны мільярды гадоў таму, толькі напомню. А гэта не адзіны касцёр запальных перакананняў у нашай рэальнасці. Пра перавагу сваіх рэлігій дражняць адзін аднаго паслядоўнікі ісламу ды хрысціяне, на ідэалагічнай ніве — неаліберaлы з сацыялістамі. У Польшчы прыхільнікі ПіС пакепліваюць з палітычных праціўнікаў. Кожны бок перакананы ў перавазе сваіх перакананняў або меркаванняў. Я пытаюся, хто не мае рацыі? Ну, а хто мае рацыю?

Гэтыя два вышэйпрыведзеныя пытанні толькі ілюзорна ідэнтычныя. Адказ на іх няпросты. Так што я буду выкарыстоўваць прыклад. Некаторы час таму прэзідэнт Беларусі публічна выказаў меркаванне, што свіное сала падмацоўвае здароўе і служыць для чалавека. Такое ў яго перакананне і ўсё! Але што іншае перакананне прэзідэнта дзяржавы, а што іншае асабістае перакананне Аляксандра Лукашэнкі. І тут мы ўступаем на грунт палітыкі. У жыцці бывае так як у жыцці — вераванні пераплятаюцца з меркаваннямі або першыя выдаюць сябе за другія, баламуцўшы тую ж карціну рэальнасці, якую мы носім у нашай свядомасці. Палова бяды, калі гэта адбываецца ў галаве сярэдняга едака хлеба. Але калі гэта галава палітыка?

Перакананні маюць свае вытокі ў несвядомых сімпатыях ці антыпатыях, страхах, фобіях, культурных звычках... Няма неабходнасці даказваць іх праўдзівасць або памылковасць, хоць цікава прааналізаваць іх прычыну. Погляды не могуць абысціся без інтэлектуальнага апісання. Не зважаючы на тонкія, але ж яксасныя адрозненні паміж імі, усё больш і больш акунаемся ў пазнавальны хаос. Наша ўнутранае перакананне, што зямля плоская, як блін, можа паставіць нас пад насмешкі сяброў, калі мы аб'явім такі пункт гледжання. Аднак, з перакананнямі не дыскутуюць. Але з поглядамі — калі ласка! Толькі што свае погляды трэба старанна аргументаваць. І гэта прадугледжвае значныя інтэлектуальныя намаганні. На жаль, той вышэйзгаданы «сярэдні ядок хлеба», як правіла, не жадае натужваць сваю мазгавешку і хутчэй здавольваецца тым, што спантанна падкіне яму яго ўнутранае перакананне.

І да таго ж... вясна. Нарэшце я прымусіў сябе да шчырай працы ў агародзе. А замаруджваў, упіраўся... Нарэшце перамог ляноту. Пасадзіў, перажыўшыя зіму цыбуліны. Раней давялося перакапаць зямлю. Загроб газоны, хаця не з усяго; прыбраў, хоць і не ўсё. Слівы ўжо адцвілі, раздзьмуўшы багата белыя пялёсткі. Гэта можа такі напамін пра злавесныя зімы... Але зацвілі чаромха, чарэшні і вішні. Дубы, як звычайна недаверлівыя, чакаюць. Птушыны гоман усюдыісны. Толькі я адзін. Вось як ідуць справы.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Медыйная камісія

Калі тыдзень таму назад пісаў я пра падарожжы маіх сяброў, дык не падумаў, што ў сувязі з гэтым узнікнуць у мяне палітычныя паралелі. А ўсё адбылося дзякуючы Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей, якая на мінулым тыдні пабывала на Беласточчыне. У гэтым нумары «Нівы» маем аж два тэксты, прысвечаныя дакладнаму апісанню гэтай падзеі, але я таксама хачу закінуць некалькі сваіх суб'ектыўных уражанняў ад пабачанага і пачутага. Па-першае, мае бацькі заўсёды мяне вучылі, каб нідзе не спазняцца. І калі я па справах дамоўлены ў дзяржаўных ці самаўрадавых установах або на прыватныя сустрэчы, дык паўгадзіннае спазненне ад назначанага пачатку спаткання з'яўляецца для мяне сорамам, ад якога заўсёды чырванее мая мыза. Не магу сабе ўявіць, як можна быць такім несур'ёзным чалавекам, які лагістычна не патраціць скласці сабе памінутнага календара сваіх сустрэч. Нам так сябе паводзіць нельга, але паслам і ўсім вялікім гэтага свету можна. Кожны з нас не раз зазнаў чакання ў рознага роду чэргах і дакладна ведае, што значыць браніраваць дзеля браніравання ўмоўныя дні і гадзіны. От, такія парадоксы нашай штодзённасці. Для свайго прыватнага супакаення нават мне ўдалося прыдумаць такое вось апраўданне гадамі не вырашаных нашых безнадзейных беларускіх спраў: «Żyd to wieczny tułacz, a Białorusin to wieczny petent». Думка проста адчайная, але ў ёй вялікае зерне праўды. І чым больш жыву, тым больш пачынаю разумець паняцце «святога спакою», якое з'яўляецца сэнсам існавання гэтак званых нашых людзей, якім усё да лямпачкі. Прыклад заўсёды ідзе зверху, або бывае і вынікам грамадска-палітычных абставін.

Прыезд сеймавай камісіі на правінцыю — падзея, якая заўсёды і для палітыкаў, і для медыяў з'яўляецца, на жаль, месцам узаемапранікання прафесійных інтарэсаў. Значыць — узаемае выпендрыванне без аніякай рэфлексіі пра што гаворым і ці нясем адказнасць за свае словы і сваю працу. Здавалася б, што паміж палітыкамі і журналістамі павінны быць мур недавер'я і патрэба праверання. А тут штодзень маем толькі падсунутыя пад нос мікрафоны і дыктафоны, а потым ідзе тэхнічная апрацоўка шумаў, пыканняў і мэканняў суразмоўцаў. Пішу гэта з пэўным жалем і жахам, за які таксама і я нясу адказнасць, будучы галоўным рэдактарам нашага тыднёвіка. Журналістыка абавязвае нас толькі да аднаго — быць заўсёды ў інтэлектуальнай апазіцыі да кожнай улады і глядзець ёй на рукі, нягледзячы на свае асабістыя палітычныя сімпатыі ці антыпатыі. Толькі і аж толькі самых простых прынцыпаў журналісцкай прафесіі.

Менавіта з гадамі прыходзіцца мне са што раз большым сорамам назіраць поўную журналісцкую непрафесійнасць у падрыхтоўцы да рэалізаваных тэм, якая прадугледжвае проста не вядома чаму звышкарэктнасць, якая мае апраўдваць непадрыхтаванасць да апісваных спраў. Вось менавіта просты прыклад з апошняга візіту парламентарыяў. Сеймавая камісія нацыянальных і этнічных меншасцей налічвае васямнаццаць чалавек. У Беластоку было іх толькі восем, а ў Гайнаўцы яшчэ менш. Прадстаўнікамі Падляшша ў ёй з'яўляюцца паслы Тамаш Цімашэвіч і Роберт Тышкевіч. Астатні ўвогуле не з'явіўся ў час пабыўкі камісіі на Падляшшы. Таксама цікава, што з кіруючай краінай партыі нікому з падляшскіх паслоў не цікава ўдзельнічаць у працы камісіі, а ў часе яе пабыўкі на Падляшшы нівод з іх не быў ані ў Беластоку, ані ў Гайнаўцы. Ці ж гэтага недастаткова, каб запытаць пра стаўленне да нас мясцовых палітыкаў і ролю самой камісіі? Дзеля звычайнай статыстыкі хопіць увайсці на інтэрнэт-старонку справаздач з пасяджэнняў камісіі і прасачыць прысутнасць там нашых падляшскіх паслоў і рэальную вырашальнасць праблем нацыянальных меншасцей. Той факт, што на сустрэчу ў Беласток не з'явіліся прадстаўнікі некаторых падляшскіх нацыянальных меншасцей і большасці беларускіх арганізацый сведчыць толькі пра адно — не мусім траціць часу ў чарговых пасядах.

Яўген ВАПА

# Вярнуць прададзеную бацькаўшчыну

(працяг з Нівы № 17)

**Прадаць не сваё**

Сталі будаваць на беразе «турыстычную інфраструктуру» і прадаваць участкі на аўкцыёнах. Адзначаючы (22.06.2017 г.), што тыя ўчасткі распаложаны «ў чашы вадасховішча Семяноўка» гэта грунты непасрэдна пакрытыя вадой у межах падняцця яе да 145 м н.у.м., і грунты прылягаючыя да вады ў межах падняцця вады да 147 м н.у.м, ствараючыя зону адмоўнага ўплыву вадасховішча, якія пад пагрозай падтаплення і празмернай вільгаці». Але прадаць іх можна, ды і за немалыя грошы.

Войт Нараўчанскай гміны 20 чэрвеня 2017 г. аб'явіў аўкцыён, дзе запрапанаваў набыццё 21 участка. У Нараўцы — для гаспадарчай пабудовы і на месцы працы два ўчасткі велічынёй 3040 кв. м. — цана 88 230 зл. А для пабудовы гатэляў і пансіянатаў — у Луцэ — участкі № 931/1 і 930/1 велічынёй 3345 кв. м. — цана 87 100 зл., участкі 928/1 і 927/1 велічынёй 3 471 кв. м., цана — 90 400 зл., участкі № 925/1 і 924/1 паверхняй 3474 кв.м., цана — 88 700 зл., участак 923/1 і 922/1 (таксама ўжо з «загаспадаранай зеленню») велічынёй 3354 кв. м., цана — 86 400 зл., участкі № 921/1 і 920/1 (для паслуг разам з зеленню) велічынёй 3242 кв. м., цана 78 400 зл., участкі № 919/1 і 918/1 (для паслуг разам з зеленню), велічынёй 3134 кв. м., цана — 75 800 зл. Гэта толькі пачатковыя цэны аўкцыёна (меў ён адбыцца 27 ліпеня ў Нараўцы). І абавязкова адзначана: «Nieruchomości będące przedmiotem sprzedaży nie są obciążone ograniczonymi prawami rzeczowymi ani ograniczeniami w rozporządzaniu». Ці гэта праўда? А ці хоць **гміна паведаміла** жывых яшчэ ўласнікаў ці іх спадчыннікаў, што прадаецца іх родная зямля, якую аднялі ў іх за бесцань на план апантаных партыйных чыноўнікаў-валадароў і інжынераў-землямераў, якім снілася таксама валоданне душамі?..

Вось **Валянціна Харкевіч**, якая жыве ў Новай Луцэ па вуліцы Лясной накіравала ліст у Ваяводскую ўправу меліярацыі і водных установак (шмат установаў прапала або змянілася ў час паслясацыялістычнай трансфармацыі, але яны трымаюцца) 14 чэрвеня 2017 г. у справе сваіх участкаў на падставе арт. 2 уст. 1 і арт 10 уст. 1 закона ад 6 верасня 2001 г. аб доступе па публічнай інфармацыі (Dz. U. 2016.1764) — наконт аплат у рамках непасрэднай еўрасаюзнай падтрымкі да ўчасткаў № 1459/1 і № 1457 распаложаных у кадастры Лукі Нараўчанскай гміны, патрабуючы таксама інфармацыі пра ўсе дамовы аб арэндзе, карыстанні і крэдытаванні (użyczeniu) гэтых участкаў. ВУМіВУ, якая, як адзначыла, дзейнічае ад імя маршалка Падляшскага ваяводства, *uprzejmie* паінфармавала спадарыню Харкевіч, што не з'яўляецца органам падавання інфармацыі на тэму непасрэдных аплат з Еўрасаюза, і гэты запыт трэба накіроўваць Агенцтву рэструктурызацыі і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі, якое рэалізуе заданні датычныя платнасцей у рамках сістэмы непасрэднай падтрымкі. Але на ейных участках ад 2005 г. былі рэалізаваныя наступныя дамовы карыстання грунтамі. 09.12.2005 г. была падпісана дамова № **4/2005** з гмінай Нараўка датычная пабудовы трох адпачынковых памостаў і пахілу з бетонных пліт; дамова пазыкі грунту № **1/2009** г. ад дня 15.01.2009 г. падпісаная з гмінай Нараўка, датычная пабудовы амфітэатра з месцамі для публікі, комплексу спартыўных пляцовак, парусных базы і пляжа; дамова карыстання грунтам № **15/2014** ад 05.08.2014 г., падпісная з панам Янам Вэрэшчынскім наконт трох драўляных памостаў; дамова пазыкі грунту № **2/2017** ад дня 1.02.2017 г., падпісаная з Польскім рыбалоўным саюзам акругай у Беластоку наконт стварэння месца для прычальвання і спуску лодак; дамова арэнды № **20/OP/2017** ад 10.05.2017 г., падпісаная з панам Янам Вэрэшчынскім наконт вядзення паслуг звязаных з надводным адпачынкам; дамова пазыкі грунту № **6/2017** ад 22.05.2015 г. падпісаная з Нараўчанскай гмінай наконт прадаўжэння «камунікацыйнага цягу», г.зн. гмінай дарогі пазначанай нумарам 873/1 для свабоднага доступу да вясковых крыжоў і табліцы ўвекавечваючай высяленне вёскі Лука.



**Не затопяцца!**

А арэнда магчымая, як ВУМіВУ інфармуе яшчэ раз на пытанне зацікаўленых асоб 20 ліпеня 2016 г., у выпадку «запланаваных інвестыцыйных дзеянняў звязаных з актывізацыяй прылеглых тэрыторый пры ўспрыняцці запісаў пра мясцовыя планы прасторавага добраўпарадкавання». І дадаюць (з подпісам тадышняга кіраўніка дамбы Лявона Хлябіча), што ў сувязі з вышэйсказаным і ў адносінах да папярэдніх запытаў (Уладзіслава Бірыцкага), што не плануецца аддача ў арэнду вышэйўказаных участкаў «толькі з чыстай ахвоты іх арандавання, а не для рэалізацыі мэт, аб якіх успомнена вышэй».

Яшчэ 7.12.2012 г. Агенцтва рэструктурызацыі і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі, Бюро кантролю і бяспекі Падляшскага сельскагаспадарчага абароту ўдакладняла, што на гэтых участках вялікую частку займае паверхня **для вядзення сельскай гаспадаркі** – на ўчастку № 1459/1 – 7,44 гектара, а на ўчастку 1457 – 0,91 гектара. На іншыя пытанні, пастаўленыя АРіМСГ адмаўляецца адказаць, таму што ліст не выяўляе праўнай падставы для таго, каб Агенцтва мусіла даць адказ, паколькі мае абавязак «захаваць дабро інтарэсу асоб, якіх яны датычаць, а могуць стаць доступнымі толькі па заказе Паліцыі, Суда і Пракуратуры». Значыць, калі запытваючы дакажа, што справы падазроныя?..

Нараўчанская гміна прапануе на аўкцыёнах участкі з-над Семяноўскага вадасховішча, з прызначэннем на паслуговае, дачнае і турыстычнае будаўніцтва. Набыць іх можа той, хто мае грошы і пераможа іншых зацікаўленых сваёй цаной. На аўкцыёне ў маі 2017 г. прапанаваліся ўчасткі ў Луцэ — на Старым Дварьі — забяспечаныя ў медыя ўчасткі велічынёй ад 800 кв. м. да 1500 кв. м., прызначаныя ў мясцовым плане добраўпарадкавання пад жыллёвае і дачнае будаўнітва (стартавая цана на аўкцыёне 40 зл. за кв. метр). У Луцэ II — участкі паверхняй па каля 1000 кв. метраў у адлегласці каля 400 метраў ад вадасховішча; у Новай Луцэ (ад 420 кв .м. да 2 500 кв. м.) пад жыллёвае будаўніцтва. На «гатэльным Старым Двары» — які да смерці не пакінуў Ян Рыгаровіч — тэрыторыя велічынёй 2,5 га — абшар пад гатэльныя і спартыўна-адпачынковыя паслугі — лакалізацыя **непасрэдна над берагам вадасховішча** – стартавая цана ад 50 зл. за кв. м. Крыху далей — каля 400 метраў ад возера — участкі ў Тарнопалі на Круглікy — участкі плошчай ад 1100 кв. м да 3200 кв. м. — на жыллёвае і дачнае будаўніцтва, стартавая цана ад 38 за кв. м. У Слабодцы — участкі плошчай ад 980 кв. м да 1100 кв. м. — прызначаныя на паслуговае, дачнае і турыстычнае будаўніцтва. У Луцэ – **непасрэдна на беразе** — абшар велічынёй **32 гектары** – тэрыторыя прызначаная на поле для гульні ў гольф. Спорт, як ні кажаце, для багатых...

**Прадаць чужым і грашавітым**

14 красавіка 2017 г. войт Нараўчанскай гміны прадаваў на аўкцыёне лучанскія ўчасткі — № 1342, плошча 3000 кв. м., стартавая цана 85 440 зл, на тэрыторыі матэля разам з тэхнічным абсталяваннем; № 1520, 759 кв. м., стартавая цана 16 550 зл., для пабудовы пансіяната; № 1532 – 780 кв. м., стартавая цана 17 000 зл., для дачнай пабудовы; № 1648 – 560 кв. м., стартавая цана 14 500 зл., для індывідуальнай пабудовы — дачнай і пансіянатаў; № 1649, 505 кв. м., стартавая цана 13 130 зл., для пабудовы «індывідуальнай рэкрэацыі» (дачнай) і пансіяната; № 1055/11 і 1218/8, 975 кв. м., стартавая цана 27 500 зл, на дачную пабудову; №1054/17, 809 кв. м., стартавая цана 25 700 зл., на дачную пабудову ў азяляненай зоне, № 1055/10, 809 кв. м., стартавая цана 25 700 зл., на дачную пабудову ў азяляненай зоне; № 1056/16, 1056/18 і 1218/9, 988 кв. м., стартавая цана 25 800 зл, на дачную пабудову; 1056/17 і 1056/19, 1000 кв. м., стартавая цана 32 000 зл., на дачную пабудову; № 1057/6 і 1057/11, 1122 кв. м., стартавая цана 35 900 зл., на дачную пабудову; № 1057/8, 1290 кв. м., стартавая цана 41 300 зл., на дачную пабудову; № 1056/14, 1261 кв. м., стартавая цана 40 300 зл., на дачную пабудову... Падаецца толькі стартавая цана — перамагае ў аўкцыёне той, хто канчаткова **дае найбольш...**

**Абодва бакі павінны ведаць**!

Колькі кампенсацыі атрымалі былыя ўласнікі за тыя ўчасткі, з якіх выгналі спрадвечных уладальнікаў гэтай зямлі? І ці ведаюць яны ці іх спадкаемцы, каму тая зямля прадаецца? Ці перш за ўсё паінфармаваны яны пра такое дзеянне, якое робіць гмінная ўправа з войтам, распараджаючыся зямлёй, якая была экспрапрыяваная сілай. І за кожным разам адзначаецца на аб'яве пра аўкцыён, што да гэтых участкаў ніхто не мае прэтэнзіі і «не абцяжараны яны абмежаванымі рэчавымі правамі і абмежаваныя ў распараджэнні». Можа, хтосьці, хто цікавіцца ўчасткамі, як Уладзіслаў Бірыцкі і яго жонка Івона, якія хочуць **адкупіць бацькаўшчыну**, перагляне нумарацыю і ўспомніць месца, дзе стаяла родная хата і гумны, дзе раслі агарод і садок, дзе былі палеткі?.. Пра гэта павінны паінфармаваць іх гмінныя ўлады. Бо перш за ўсё **спадкаемцы маюць права** на тое, каб атрымаць зямлю назад, як нявыкарыстаную ў плане «пабудовы Семяноўскага вадасховішча і канала Нарва — Супрасль».

Важны дакументы пра тое, што наша, дзе яно ляжала. Ведаць, што трапіла пад незрэалізаваны план AS.42/II/III/1/75, на які экспрапрыявалася зямля незалежна ад рашэння гаспадароў, ці хочуць яны пакідаць сваю зямлю і за колькі грошай кампенсацыі гэта зробяць. У святле абавязваючых сёння праўных рэгуляцый «публічная мэта» гэта мэта, якая служыць агульнасці людзей, **даступная для ўсіх.** У Канстытуцыі РП «экспрапрыяцыя» дапускаецца толькі тады, калі робіцца яна на публічныя мэты і пры **слушнай кампенсацыі**. З сабраных дакументаў вынікае, што вялікая частка экспрапрыяваных нерухомасцей на пачатку дзевяностых гадоў была палічана **лішняй** для мэты звязанай з экспрапрыяцыяй і перададзены яны былі **Нараўчанскай гміне**.

Шмат гадоў нічога з гэтымі нерухомасцямі не адбывалася, аднак ад нейкага часу вядуцца дзеянні наконт змены прасторавага добраўпарадкавання і прызначэння гэтых грунтоў. Фіналізацыяй гэтых дзеянняў з'яўляецца продаж гэтых грунтоў «асобам трэцім». Адна з нерухомасцей — памечаная нумарам 926 плошчай 0,18 га, распалажаная ў Луцэ ў Нараўчанскай гміне, прадаецца, а другую з нумарам 939, плошчай 0,17 га ўжо прадалі ў 2007 годзе. Такіх участкаў тут вельмі шмат.

І тут сутнасць праблемы, якая турбуе асоб якія схочуць

**вярнуць сабе забраную ім**

родную зямлю. Войт Нараўчанскай гміны, які з'яўляецца органам, які можа выканаць гэтае дзеянне, не выконвае яго. Незалежна ад заклікаў, каб не парушаў надалей ён закону ды зваротаў у вышэйшыя інстанцыі наконт яго бяздзейнасці ў гэтым плане. Апрача таго, хаця войт ведае пра тое што ідуць справы ў Павятовым старостве ў Гайнаўцы датычныя вяртання нерухомасцей аддадзеных дзяржаве праз экспрапрыяцыю, прысьпешвае дзеянні **продажу нерухомасцей,** якія дасталіся гміне як «лішнія» ад незрэалізаванай «публічнай мэты». Нядаўна прадалі чарговыя паселішчныя ўчасткі № 932, 933, 934, 935, 936. Орган абавязаны, згодна з законамі, даць інфармацыю аб сваіх намерах былым уласнікам або іх спадчыннікам. Тое паведамленне неабходнае дзеля атрымання «roszczenia publicznoprawnego, zmierzającego do „odzyskania" wywłaszczonej nieruchomości», пасля атрымання якога былы ўласнік мае **3 месяцы** для таго, каб падаць сваю заяву на вяртанне экспрапрыяванай нерухомасці, і гэтая заява неабходная, «wiążąca» для органу, які выдае рашэнне аб вяртанні. Калі на працягу гэтых 3 месяцаў уласнік не робіць гэтых дзеянняў, значыць, гасне яго права на дамаганне вяртання экспрапрыяванай нерухомасці. Гэтае паведамленне з'яўляецца актам з абсягу публічнай адміністрацыі вынікаючым з юрыдычных правіл, а такім правам з'яўляецца патрабаванне вяртання экспрапрыяванай нерухомасці. Адміністрацыйны орган павінен выдаць сваё **адміністрацыйнае рашэнне** наконт вяртання нерухомасці. У ацэнцы судоў, экспрапрыяцыя з'яўляецца ўмяшаннем у сферу канстытуцыйнага права на ахову ўласнасці і магчымая (дапушчальная) толькі ў выключнай справе, а незрэалізаванне мэты экспрапрыяцыі адмаўляе патрэбу такога ўмяшання. Патрабаванне вяртання экспрапрыяванай нерухомасці, пры недахопе рэалізацыі мэты экспрапрыяцыі не можа абмяжоўвацца ані заканадаўцам, ані тым больш органамі прымяняючымі гэтыя законы. Вяртанне такой нерухомасці мае **канстытуцыйны ранг**!

Амбудсмен раіць пасля году паступлення ліста жыхароў у яго офіс: «У выпадку, калі нерухомасці яшчэ не прададзеныя, згодна з цывільным кодэксам, трэба прыняць пад разваг магчымы прыём: у выпадку дамовы куплі, якая спрычыніецца да таго, што немагчыма задаволіць часткова ці поўнасцю патрабаванне «трэцяй асобы», тая асоба можа патрабаваць палічыць тую дамову няважнай у адносінах да яе, калі бакі аб яе патрабаванні ведалі, або калі дамова была бясплатная. Прызнання дамовы за няважную нельга чакаць пасля году ад яе падпісання».

Каму год, каму сорак гадоў, каму... вечнасць.

(Працяг будзе)

Міра ЛУКША

## Харашчанская дэмаграфія

Харашчанская гміна Беластоцкага павета налічвае 34 населеныя пункты, у якіх пражывае 14 767 чалавек, у тым ліку 7375 мужчын і 7392 жанчыны. Шчыльнасць насельніцтва складае 92 чалавекі на квадратны кіламетр. Пяць гадоў таму ў гміне пражывала 13 836 чалавек — 6877 мужчын і 6969 жанчын. Зараз найбольшым населеным пунктам з'яўляецца горад Харошча — 5696 чалавек (2805 мужчын і 2891 жанчына). За пяць апошніх гадоў колькасць жыхароў Харошчы павялічылася на 134 чалавекі.

Вялікія вёскі гэта Клепачы — у ёй 1790 (тут мужчын больш чымсьці жанчын на 30), Златорыя — 872 жыхары (тут мужчын больш на 10), Крупнікі — 687 (і тут жанчын больш на 13), Парослае — 653 (тут мужчын больш на 11), Баршчэва — 496 (тут жанчын больш на 14), Лыскі — 405 (тут жанчын больш на 23), Жулткі — 382 (тут мужчын больш на 8), Панькі — 329 (тут мужчын больш на 1), Ізбішча — 292 (тут мужчын больш на 20), Алішкі — 290 (тут мужчын больш на 12), Парослае-Калёнія — 277 (тут мужчын больш на 1), Рогава — 226 (тут мужчын больш на 10), Сянкевічы — 178 (тут жанчын больш на 20), Дзікае — 176 (тут жанчын больш на 14), Зачарляны — 161 (тут мужчын больш на 1), Сліўна — 152 (тут мужчын больш на 6), Канавалы — 147 (тут жанчын больш на 7), Гаёўнікі — 145 (тут мужчын больш на 11) і Дзікае-Калёнія — 102 (тут жанчын больш на 2).

Да меншых вёсак належаць Рагувак — 99 (тут мужчын больш на 5), Яронікі — 98 (тут мужчын больш на 2), Агароднікі — 97 (тут жанчын больш на 1), Жулткі-Калёнія — 59 (тут мужчын больш на 3), Рогава-Маёнтак — 56 (тут мужчын больш на 2) і Турчын — 22 (тут мужчын больш на 4).

Зараз найбольшая перавага па колькасці жанчын над мужчынамі выступае ў горадзе Харошча — на 86 (а пяць гадоў таму жанчын было больш чымсьці мужчын на 124). Як сцвярджаюць нашы айчынныя дэмографы і сацыёлагі, жанчыны жывуць даўжэй за мужчын.

Цяпер ужо ніхто не пражывае ў Гаёўніках-Калёніі, Зачарлянах-Калёніі і ў Златорыі-Цагельні. У пасяленні Калёнія-Чапліна жыве адзінокі мужчына.

## Бельская дэмаграфія

Вясковая гміна Бельск-Падляшскі займае плошчу ў 430 квадратных кіламетраў — гэта 31% усяго Бельскага павета. Яна па-суседску з васьмі іншымі гмінамі. Тут у 61 вёсцы (салэцкіх вёсак 52) пражывае 6830 чалавек. На 100 жанчын прыпадае 100 мужчын. Шчыльнасць насельніцтва складае 15 чалавек на квадратны кіламетр. Два гады таму Бельская вясковая гміна налічвала 6966 чалавек. Яшчэ тады існавалі два населеныя пункты Саботчына і Ужыкі.

Вялікія вёскі ў Бельскай гміне гэта Відава, Ягуштова, Пілікі, Кнарыды, Плёскі, Лубін-Касцельны, Дубяжын, Праневічы, Кнаразы, Парцава, Гацькі, Грабавец, Крывая, Райск і Галады. Да малых вёсак належаць Арлянка, Белая, Яцэвічы, Падбелле, Ступнікі, Петшыкова-Вышкі, Жэпнева і Райкі.

6 красавіка гэтага года Анна Філіманюк з Кназазоў святкавала свой 100-гадовы юбілей. З гэтай нагоды яна атрымала віншаванні, між іншым, ад старшыні Рады Міністраў Матэвуша Маравецкага і падляшскага ваяводы Багдана Пашкоўскага (яны прыслалі ёй віншавальныя лісты) ды войта Бельскай вясковай гміны Раісы Раецкай.

(яц)

# Поспехаў

**У трох трэціх класах Бельскага белліцэя 27 красавіка адукацыю закончыла 86 выпускнікоў.**

Фота Аляксандры ЗІНКЕВІЧ












# на матуральных экзаменах!

**У трох трэціх класах Гайнаўскага белліцэя 27 красавіка адукацыю закончыла 79 выпускнікоў.**

Фота Аляксея МАРОЗА










Міра ЛУКША

*Словы з-пад лесу*

## Адкрыццё

адкрываецца ноч
паміж хлебам і вадой
старой дарогай
што перасякае межы
ціха кранае жывую скуру ракі
як маёй далонню

## Хлеб

вазьмі хлеб
на лісці слова
спечаны

і не будзеш мецць
больш болю
чым перанясеш
бо вазьму яго на рукі

будзеш сыты і вольны
даю табе слова
тае што сее
лечыць
і пячэ

## Рэха

паўтарае
слова
з-пад пушчы

з гушчы
значэнняў
і маўчанняў

нас многа
слоў
і невымоўя

я рэха
маіх прабаб

баб баб баб баб

## Корань

з кораня выходжу
у корань вяртаюся
у слове лістоўя
я

## Галінка

птушка
мяне пагушкай
на вітцы-лукшы



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# «Брэнд» з Шудзялава!





— Для мне самае цяжкае слова гэта «салянка», — кажа Паўліна Лянкевіч.

— А ведаеш што яно абазначае?

— Гэта страва? — дапытлівым зрокам глядзіць на мяне пяцікласніца.

Паўліна ніколі не ела салянкі. У Вярхлессі, адкуль яна родам, не гатуюць такіх супоў. Але той, хто хоць раз пакаштуе добрую салянку, палюбіць яе назаўсёды. Каб згатаваць смачную салянку, трэба прыдбаць шмат прадуктаў: мяса, тры віды добрай каўбаскі, аліўкі, бульбу, квашаныя агуркі, моркву, сельдэрэй, чырвоны перац і зялёную пятрушку.

У спектаклі «Брэнд», які паказалі на сёлетнім тэатральным аглядзе вучні з Шудзялава, Паўліна іграла ролю Маці. Там шмат назоваў модных кулінарных прадуктаў.

— Нам было вельмі прыемна пазнаваць новыя словы, — дадае Караліна Лазарэвіч.

У Караліны быў не абы-які выклік. Ёй трэба было ўвайсці ў ролю Бацькі. У гэтым дапамог ёй родны тата.

— Ён пазычыў мне свой гальштук, — прызнаецца пяцікласніца.

Бацька ў спектаклі — дзейсны і модны мужчына. Ён на працу апранае касцюм маркі «Армані». Праўда, яго модны стыль і апранахі за вялікія грошы не зусім падабаюцца Бабулі, вясковай жанчыне. Для яе сусветныя брэнды — падазроныя.

— Мая родная бабуля не пераносіць чыпсаў, — смяецца трэцякласнік Ігар Тарасэвіч. Пра гэтага адважнага і жывога хлапчука можна сказаць адно — ёй бліщчэў у спектаклі як вясновае сонейка. Ігар вымаўляў беларускія словы натуральна і спантанна. Як прызнаўся хлапец, падвучыла яго родная бабуля, якая любіць з ім размаўляць пабеларуску.

— Я вельмі цешуся, што выступаю ў гэтай пастаноўцы, — уключаецца ў размову Караліна.

— Чаму?

— Бо калі развучвалі спектакль, гэта былі самыя файныя ўрокі. Мы засвоілі новыя словы і ўсе добра гулялі.

— Мне таксама ўсё падабаецца на ўроках беларускай мовы, — дадае Паўліна.

Вучням Пачатковай школы ў Шудзялаве, якія прыехалі са спектаклем «Брэнд», спадабалася таксама паездка ў Беласток. Такой экскурсіі чакаюць круглы год.

Нашы сакольскія сябры прыехалі разам з вучнямі з Бабікаў невыпадкова. У Шудзялаве і Бабіках адна настаўніца беларускай мовы — пані Тацяна Андрацкая. Нашы героі добра ведалі «Зорку», на якую падпісваюцца ў сваіх школах. І запрасілі на школьнае свята — Дзень сям'і, якое з вершамі, песнямі і конкурсамі ладзяць у школе.

**Зорка,**
**фота Ганны Кандрацюк**

**PS.** Пра змест спектакля мы пісалі ў Зорцы № 15 у рэпартажы «У беларусаў таксама ёсць брэнды і маркі».

## Ярыла (з беларускай міфалогіі)

Кажуць, той яздок, які на гербе Пагоня, гэта старажытны бог Ярыла.

Хто ён — гэты Ярыла?

Ярыла — бог ураджаю, любові, сілы і адвагі. Гэта малады, прыгожы юнак у белым плашчы і з вянком кветак на галаве. Ён раз'язджае на белым кані, трымаючы ў руках жменю аржаных каласоў. На Юр'я Ярыла адкрывае вароты неба і на белым кані праязджае на зямлю.

З яго прыездам пачынаецца сапраўдная вясна.

У гэты дзень старажытныя беларусы першы раз выганялі жывёлу ў поле. Бралі каравай і ішлі гасцяваць у полі. А пасля рытуальнага пачастунку качаліся ў маладым жыце. Гэта мела паспрыяць здароўю і ўраджаю.

**(гак)**

Ларыса Геніюш

## Ластаўка

Зелянеў пявучы май,
Да зямлі прыпаўшы.
Закахаўся папугай
У ластавачку нашу.
Не пяюн, а лапатун.
Рыжы, як з пажару,
Можа, ён і прыгажун,
Ластаўцы — не пара.
Ластавачка над зямлёй
Нізка пралятала
І на мове на сваёй
Гэтак шчабятала:
— Вопратку тваю хвалю
Гонар — паважаю.
Усё ж, скажу,
Я не люблю
Розных папугаяў,
Што дзяцей пужаюць.
Калі хочаш з намі жыць,
Есці нашы мушкі,
Навучыся гаварыць
Лепш па-беларуску.



Гарадоцкія дзяўчаты на XI фестывалі культур у Беластоку, 24.04.2018

Фота Аляксандра Вярбіцкага

Мацей Харыла, Патока, КШ у Міхалове

## Салодкая хвіліна

Іду ў магазін,
Радасная хвіліна.
Гэта проста мая гадзіна.
Для сям'і салодкае куплю,
Прынясу ўсім шакалад.
Будзе радасць, мір і лад.

Алівія Тарасэвіч, ГПШ у Міхалове

## Сябар

Грыша — прыемны госць.
Грыша каля мяне ёсць.
Ён вельмі вясёлы,
Са мной ходзіць у школу.
Вучымся разам
беларускай мовы,
І ведаем — хто мы!

## УВАГА КОНКУРС! № 18-18

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 13 мая 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Дзетак сваіх не гадуе,
нават гнязда не будуе,
звонка ў лесе гукае.
Што за птушка такая?
З.....**

(В. Жуковіч)

**Адказ на загадку № 14- 2018: сон-трава.**

**Узнагароды, наклейкі, выйгралі Матэвуш Бонда, Іаанна Мусюк, Аляксандра Лашэўская з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, КлаўдзіяНіканчук, Тамаш Ваўранюк, Наталля Петручук з Нарвы, Марыя Кардзюкевіч, Вікторыя Сямянюк, Юлія Высоцкая з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Дзік і лісіца

Дзік з вялікай увагай і цырымонна вастрыў свае іклы. Прыйшла лісіца і пытае:

— Навошта табе гэты занятак? Няма ніякай пагрозы, вайны. Навокал нас — адны сябры і прыяцелі...

Дзік паглядзеў на рыжую хітрыцу і кажа:

— Ці ты кума з дуба звалілася? Нічога не разумееш пра правілы вайны і міру. Лепш закусі язык і памаўчы!

— Тады асвяці мяне, калі ласка, — абурылася лісіца.

— Калі ідзе вайна, няма часу рыхтаваць зброю. Да вайны трэба рыхтавацца тады, калі ўсё добра і калі ў цябе свабодны час.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 18-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 14-2018:**

Сонца, спроба, Ас, Іра, вясна, Ніл, Вялікдзень, лаза, лата, ер, но, яры, здароў.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Тацяна Сахарчук, Куба Мартынюк, Гжэгаж Вуйтовіч, Міхал Васілюк** з бельскай «тройкі», **Мар'я Савіцкая, Адрыян Максымюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Юля Шкляжэўская, Аліўка Порац** з Нарваў, **Алівія Тарасэвіч, Оля Алексяюк** з Міхалова. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ranek | Na | Bieda / Havana | | No | | Prezent |
| | | Duma / Hit | | | | | |
| Ar / Ogród | | | | | | | Słonina |
| Pole | | | | | As / Aby | | |
| | | | | Ara | | | |
| Chata | | | | Punkt | | | |
| | Motyka | | | | | | |

# Беласточчына
## ў змаганні за Беларускую




**Да Першай сусветнай вайны тры паветы Беласточчыны: Сакольскі, Беластоцкі і Бельскі належалі да тых, у якіх беларускае нацыянальнае жыццё развівалася даволі хутка. Дарэчы, тут былі і даўнія традыцыі беларускага руху. Тут выдавалася ў 1862 г. „Гутарка двух суседаў”, а ў 1863 г., магчыма, і „Мужыцкая праўда”. Яе выдавец, Кастусь Каліноўскі, нарадзіўся ў Мастаўлянах на памежнай цяпер Свіслачы, а яго галоўны ідэйны супрацоўнік, правадыр г.зв. „заходнерускай партыі” прафесар Міхайла Каяловіч — у недалёкай Кузніцы. Але праваслаўныя былі і сярод паўстанцаў, напрыклад Язэп Такарэвіч з Бельска, які на эміграцыі задумаў выдаваць беларускую газету. У наступным пакаленні з Грыневіч-Малых, што пад Бельскам, паходзіў Ігнат Грынявіцкі, забойца цара Аляксандра ІІ і духоўны бацька беларускай фракцыі Народнай волі.**

На пачатку ХХ ст. з’явіліся першыя ўласна беларускія палітычныя арганізацыі — Беларуская рэвалюцыйная партыя, а затым Беларуская рэвалюцыйная (пасля — сацыялістычная) грамада. Актыўным дзеячам БСГ быў пецярбургскі студэнт з Кленік Бельскага павета, сын тутэйшага праваслаўнага святара — Яўген Хлябцэвіч. Дзякуючы яму мясцовая бельская арганізацыя БСГ існавала ўжо ў 1906 годзе. З 1907 г. да БСГ належаў іншы святарскі сын, Іван Краскоўскі з Дубіч-Царкоўных, які ў рады арганізацыі ўцягнуў шмат сялянскай моладзі (бацька Івана, а. Ігнат, у час студэнцкай маладосці быў нарадавольцам). Краскоўскі, які пасля стала жыў і працаваў у Вільні, далучыўся да братоў Івана і Антона Луцкевічаў. Тут да іх далучыўся і Усевалад Ігнатоўскі, родам з Такароў, які вырас у падгайнаўскіх Дубінах, у будучыні выдатны савецкі дзеяч і беларускі гісторык. Каталіцкая моладзь з Сакольшчыны з 1909 г. далучалася да гродзенскага гуртка беларускай моладзі, арганізаванага ксяндзом Францішкам Грынкевічам.

Безумоўна, усё пайшло б зусім іначай, калі б не Першая сусветная вайна, і, перад усім, бежанства 1915 года. Амаль усё праваслаўнае насельніцтва Беласточчыны падалося ва ўцёкі ў глыб Расіі і практычна адсутнічала на бацькаўшчыне ў час, калі вырашаўся яе лёс на цэлыя дзесяцігоддзі. Адступаючы, расійскія войскі палілі вёскі, а тое, што засталося, расцягалі нядобразычлівыя суседзі. З беларускага гледзішча Беласточчына на некалькі гадоў стала амаль пустыняй. Беларусь перарэзала лінія фронту і сабраліся тут натоўпы жаўнераў. Досыць сказаць, што было іх удвая больш, чымсьці ўсіх мужчын-беларусаў здольных насіць зброю.

На нямецкім баку фронту ў Вільні засталіся браты Луцкевічы ды Вацлаў Ластоўскі. Спрабавалі яны разгарнуць беларускі нацыянальны рух на акупаванай тэрыторыі, але гэта была вельмі цяжкая задача ў сувязі з бежанствам. Асноўным напрамкам дзейнасці была арганізацыя беларускага школьніцтва. Беларускія школы ўзніклі на цэлай прасторы ад Аўгустова на поўначы (сёння цяжка ў тое паверыць...) да Бельска. Легендарнай стала беларуская школа ў Грабаўцы, што пад Дубічамі-Царкоўнымі. Большасць насельніцтва гэтай вёскі не папала ў бежанства. Настаўнічала тут Вера Матэйчук з Агароднічак (народжаная ў Супраслі), у будучыні правадыр беларускага партызанскага руху на Беласточчыне разам з Германам Шыманюком «Скамарохам» і Іванам Грыцуком «Чортам». Сярод яе партызанаў у 1920-я гг. былі сыны тых, якія належалі да арганізацыі Івана Краскоўскага на пачатку стагоддзя. Незвычайны гэта прыклад так ранняй пераемнасці арганізаванага беларускага руху не толькі на Беласточчыне, але і на ўсёй Беларусі. Дзякуючы таму можам сабе ўявіць, якая была б тут моц беларускага руху, калі б не бежанства.

У дадзеных гістарычных абставінах беластачане не адыгралі вялікай ролі ў станаўленні незалежнай Беларусі, бо адыграць не маглі. Захавалася няшмат прозвішчаў нашых людзей, якія пакінулі след на раннім этапе гэтага змагання. Ведаем напрыклад, што ў беларускім вайсковым руху дзейнічаў Сцяпан Пятэльскі з Гарадка, вядомы як нашаніўскі паэт М. Арол.

Тым больш вылучаецца асоба ўраджэнца Кузніцы Сакольскага павета (цяпер Кузніцы-Беластоцкай) Язэпа Варонкі. Народжаны ў 1881 г. Варонка да Першай сусветнай вайны быў студэнтам юрыдычнага факультэту Пецярбургскага ўніверсітэта, але больш займаўся літаратурнай дзейнасцю на рускай мове і тэатральнай крытыкай ды вёў вясёлае жыццё сярод сталічнай багемы. Расійская рэвалюцыя адмяніла яго цалкам — ён стаў палымяным дзеячам адроджанай Беларускай сацыялістычнай грамады і пераехаў у Мінск. Актыўна ўдзельнічаў у працы І Усебеларускага з’езду і палітычным змаганні пасля яго разгону бальшавікамі. 21 лютага 1918 г. Выканаўчы камітэт Усебеларускага з’езду выдаў Першую ўстаноўчую грамату, у якой абвясціў сябе часовай уладай у Беларусі. Органам выканаўчай улады стаў Народны Сакратарыят Беларусі, які ачоліў Язэп Варонка. Ён быў і адным з ініцыятараў абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г. Абавязкі старшыні Народнага Сакратарыята і народнага сакратара замежных спраў выконваў да ліпеня 1918 г. Такім чынам, Язэп Варонка быў, паводле сённяшняй наменклатуры, першым прэм’ерам беларускага ўрада, а да таго яшчэ і першым міністрам замежных спраў. Калі беларускі ўрад мусіў з’ехаць з Мінска ў выніку бальшавіцкага наступу, у снежні 1918 г. у выніку дамовы між Беларускай віленскай радай і літоўскай Тарыбай Язэп Варонка стаў міністрам беларускіх спраў і членам кабінета міністраў Літвы. Пасаду гэтую займаў да красавіка 1920 г. У 1921 г. ён выехаў у Амерыку і разам з іншым выхадцам з Сакольшчыны, Янкам Чарапуком з Новага Двара, беларускім дыпламатам, заснаваў беларускі рух у ЗША.

Хаця беларусаў засталася на Падляшшы толькі жменька, а бежанцы вярталіся паволі, тыя, хто быў на бацькаўшчыне, не заставаліся міма ад гістарычных падзей. 20 снежня 1918 г. у вёсцы Шчыты (з’езд павінен быў адбыцца ў Бельску, але гэта забаранілі нямецкія акупанты) сабраліся прадстаўнікі Бельскага павета і прынялі наступную рэзалюцыю (на рускай мове, але беларускую духам):

**„Мы, депутаты от городов и волостей Бельскаго уезда Гродненской губернии, съехавшиеся в городе Бельске на уездный белорусский сьезд 20 декабря 1918 года по вопросу о будущем государственном устройстве Белоруссии постановили:**

**1) Все белорусские земли, заселенныя белорусским народом в том числе и Бельскаго уезда Гродненской губерніі за исключением незначительных его частей, где имеется налицо польское большинство, должны войти в состав независимого Белорусского государства”.**

Падпісаліся старшыня З’езду Анацэвіч і сакратар Мінкевіч. На жаль, нічога больш пра іх не ведаем.

# і беластачане
# Народную Рэспубліку



Урад БНР з Антонам Луцкевічам на чале пераехаў у Горадню. Як і ўсюды, беларускі нацыянальны рух у выніку бежанства быў тут вельмі слабы. Толькі на зломе жніўня і верасня 1918 г. настаўнік мясцовай беларускай школы Аляксандр Грыкоўскі, родам з Бельшчыны, стварыў тут Беларускі камітэт. На жаль, неўзабаве Грыкоўскі заўчасна памёр на сухоты. Яго пахаванне стала беларускай патрыятычнай маніфестацыяй, а сябра нябожчыка кампазітар Ян Тарасевіч прысвяціў яму песню.

Адной з галоўных задач беларускага руху была арганізацыя беларускага войска. Актыўны ўдзел прымаў у тым ураджэнец Ломжы, але выхаваны ў Гарадку Мікола Дзямідаў, спачатку як ураднік літоўскага міністэрства абароны, а неўзабаве як камендант г. Горадні, адказны за набор рэкрутаў. Дзямідаў дзейнічаў вельмі энергічна і адкрыў вярбовачныя пункты, у тым ліку ў Беластоку і Саколцы. Беларускім камісарам павета Крынкі — Лунна назначаны быў Лукаш Дзекуць-Малей. І нарэшце ў Беласток назначылі палкоўніка Кастуся Езавітава, які год раней выгнаў з Мінска бальшавікоў. На жаль, Езавітаву не хапіла часу, каб разгарнуць тут беларускую дзейнасць.




На пачатку лютага 1919 г. у выніку польска-нямецкага пагаднення заходнебеларускія землі перанялі палякі. Беларусы трымаліся ў Горадні, але палякі разганялі мясцовыя беларускія прадстаўніцтвы і арыштоўвалі беларускіх вярбовачных афіцэраў, м.інш. штабс-капітана Хомчыка ў Супраслі і Гораша ў Паўднёвым Вострave. Беласточчыну палякі лічылі неад'емнай часткай Польшчы. Неўзабаве палякі занялі таксама Горадню і абяззброілі беларускі полк. Сярод беларускіх палітыкаў і вайскоўцаў выступіў разлад. Частка адступіла ў Літву, але большасць шукала пагаднення з палякамі.

У жніўні 1919 г. польскія войскі ўвайшлі ў Мінск. У верасні горад адведаў Язэп Пілсудскі, які неўзабаве даў згоду на аднаўленне працы Рады БНР і фармаванне беларускага войска. У Беларускай вайсковай камісіі працавалі афіцэры Мікола Дзямідаў і ўраджэнец хутара Азерскія Крынскай воласці Гарадзенскай губерні Аляксандр Семяняка. Сярод афіцэраў знаходзім яшчэ жыхара Бельска-Падляшскага Паўла Гапановіча, народжанага ў Горадні, сына бельскага лесніка.Ураднікам БВК быў Уладзіслаў Чаржынскі са Старакаменнай на Сакольшчыне (у будучыні вядомы літаратурны крытык). Уладзіслаў Казлоўскі з Залесся, што на Сакольшчыне, паступіў у школу беларускіх падхарунжых. Паспее яшчэ адзначыцца ў баі, пасля стане выдатным дзеячам. Прыгадаем тут і радавога жаўнера Сцяпана Самойліка з Грабянёў Сакольскага павета, які добраахвотна ўступіў у беларускае войска.

Летам 1920 г. у выніку наступлення Чырвонай Арміі Мінск і ўся Беларусь папалі ў рукі бальшавікоў. Сярод беларускіх палітыкаў дайшло да чарговага (пасля сэцэсіі Ластоўскага, які стварыў урад БНР у Коўні), расколу. Узнік Беларускі палітычны камітэт, які ўступіў у перагаворы з генералам Станіславам Булак-Балаховічам, які ў той час распараджаўся даволі моцнай вайсковай групай, якая называлася Беларускай народнай арміяй. Атрад Балаховіча прыбыў з Эстоніі праз Латвію ў выніку стараннаў Беларускай вайскова-дыпламатычнай місіі ў краінах Балтыі. Дарэчы, адным з дыпламатаў гэтай місіі быў згаданы ўжо Янка Чарапук. Балаховіч адначасова вёў размовы з Барысам Савінкавым і Расійскім палітычным камітэтам. У выніку гэтых складаных размоў, якіх пратэктарам быў Язэп Пілсудскі, створана была саюзная армія, у склад якой увaходзілі як беларускія, так і расійскія часткі. Да ген. Булак-Балаховіча далучыліся і тыя афіцэры БВК, якія спадзяваліся, што пад камандаваннем слаўнага генерала разгорнуць больш паспяховае змаганне за вольную Беларусь. Сярод іх вылучаецца Мікола Дзямідаў, які ў наваколлі Беластока набраў з добраахвотнікаў батальён у чалавек чатырыста, з якім з'явіўся ў абозе ген. Булак-Балаховіча пад Туравам.

На пачатку лістапада армія ген. Булак-Балаховіча рушыла на ўсход і ўзяла Мазыр. Тут абвешчаны быў роспуск як варшаўскага, так і ковенскага ўрада БНР і створаны быў новы з Вячаславам Адамовічам на чале. Станіславу Булак-Балаховічу паднесены быў тытул Начальніка Беларускай Дзяржавы. На жаль, наступленне генерала спынілася на Дняпры. Затым намнога мацнейшыя чырвоныя дывізіі сталі адцясняць балахоўцаў на ўсход. 27 лістапада Булак-Балаховічу пагражала нават акружэнне. Тады выратавалі яго жаўнеры беластоцкага батальёна і смаленскага палка.




28 лістапада да Дзямідава дайшла вестка аб пачатку збройнай абароны Случчыны. Як заявіў, „даверaны яму батальён на заклік не пакідаць роднай зямлі і бараніць яе да апошняга, нягледзячы на поўны адыход расійкай арміі, з энтузіязмам сустрэў гэтую вестку". 29 лістапада батальён уступіў у пераможны бой з бальшавіцкім 40-м стралковым палком, страчваючы 4 забітых і 10 раненых. За незвычайную адвагу павышэнне атрымалі падпаручык Уладзіслаў Казлоўскі і штабс-капітан Кастыцэвіч (на маю думку — Ярaслаў, заслужаны пазней асветны дзеяч у Бельску). З снежня батальён адбіў атакі бальшавікоў пад вёскай Вялікая Малышаўка. Дзямідаў ішоў на дапамогу 1-й Слуцкай брыгадзе БНР. 2-м Грозаўскім палком гэтай брыгады камандаваў капітан Аляксандр Семяняка, накіраваны на Случчыну ў лістападзе з Горадні разам з яшчэ 20 афіцэрамі БВК у падтрымку беларускіх паўстанцаў. На жаль, Рада Случчыны вырашыла спыніць змаганне і перайшла на польскі бок фронту. Батальён Дзямідава апераваў на Мазыршчыне да канца 1920 г., калі нарэшце мусіў перайсці на польскі бок фронту.

Рыжскі трактат 1921 г. заключаны між Польшчай і Расіяй санкцыянаваў падзел Беларусі між гэтыя дзяржавы. Перыяд палітычнага і ваеннага змагання за сваю беларускую дзяржаву закончыўся толькі частковай удачай — стварэннем Беларускай ССР. Тым не менш зроблены быў вялікі крок напярод; яшчэ некалькі гадоў назад ніхто аб незалежнай беларускай дзяржаве і не думаў.

Добраахвотны беларускі батальён Міколы Дзямідава быў апошнім беларускім падраздзяленнем, якое аказвала супраціў савецкім войскам у адкрытым баі ў барацьбе за незалежнасць Беларусі. Нам, сучасным жыхарам Падляшша, застаецца гонар за землякоў, якія апошнімі з усіх беларусаў зышлі з поля бою за незалежную Беларускую Народную Рэспубліку.

**Алег ЛАТЫШОНАК**

1 ☞працяг

# Пра праблемы і поспехі беларусаў Падляшша



дадзена магчымасць быць бургамістрам у наступным годзе, а аб гэтым вырашаць жыхары Гайнаўкі, і калі паступіць прашэнне аб дазволе арганізаваць марш памяці выклятых жаўнераў, я ўжо зараз заяўляю, што прыму адмоўнае рашэнне, — гаварыў бургамістр Гайнаўкі **Ежы Сірак**.

— Зараз хутка скарачаецца лік жыхароў Гайнаўскага павета, дзе беларусы складаюць больш за палову насельніцтва, што непасрэдна звязана з гаспадарчым развіццём рэгіёна Белавежскай пушчы. Мы хочам, каб гаспадарчае развіццё нашага рэгіёна было спалучана з аховай Белавежскай пушчы, бо ранейшыя прапановы забываліся пра людзей, якія жывуць у пушчы і яе наваколлі, — гаварыў ваяводскі радны **Уладзімір Пятрочук**, у мінулым староста Гайнаўскага павета. Заклікаў ён кіруючых краінай вярнуцца да «Праграмы развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы», якая прадугледжвала вельмі вялікія фінансавыя сродкі. Уладзімір Пятрочук запрапанаваў, а яго прапанову падтрымаў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, каб Цэнтр беларускай культуры быў арганізаваны ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Прадстаўнікі беларускіх арганізацый, якія выказваліся на гэтую тэму, Цэнтр беларускай культуры бачылі ў Беластоку.

— Паколькі будынак для Цэнтра беларускай культуры можна купіць ці пабудаваць, павінен ён знаходзіцца ў Беластоку, дзе ёсць высокакваліфікаваныя навуковыя кадры, — сказаў пасля сустрэчы прафесар **Алег Латышонак**.

У час спаткання гаварылася, што Аб'яднанне самаўрадаў еўрарэгіёна «Белавежская пушча» накіравала адкрыты ліст, між іншым, маршалку Сейма РП Марку Кухцінскаму, каб у супрацоўніцтве з мясцовымі самаўрадамі выпрацаваць дзеянні ў справе аховы Белавежскай пушчы і ўраўнаважанага развіцця яе рэгіёна. У час сустрэчы ў Гайнаўцы была заяўлена просьба да членаў меншаснай камісіі падтрымаць гэтую ініцыятыву.

— Людзі з нашага рэгіёна выязджаюць у большыя гарады, у выніку меншае лік жыхароў Гайнаўскага павета. Патрэбны сродкі на развіццё нашага рэгіёна. Такія сродкі былі гарантаваны ў «Праграме развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы». У яе рамках прадбачваліся прыродазнаўчы «Капернік», які шматбакова паказваў бы прыроду Белавежскай пушчы ў яе розных праявах, будова адукацыйнай сцяжынкі, пракладзенай у вяршынях дрэў, і многа іншых ініцыятыў. Праграма прадугледжвала будову сеткі аднаўляльных крыніц энергіі, што дазволіла б Гайнаўскаму павету стаць энергетычна незалежным, — гаварыў стараста Гайнаўскага павета **Міраслаў Раманюк**.

Былы дэпутат Сейма **Яўген Чыквін** прапанаваў камісіі, каб дапамагла прыняць закон аб выплаце кампенсацыі ахвярам згуртаванняў, якія дзейнічалі на Беласточчыне і ў іншых рэгіёнах Польшчы пасля Другой сусветнай вайны. Дэпутат Сейма **Тамаш Цімашэвіч** зрабіў закід, што пачынаючы з 2016 года, калі памянялася правячая Польшчай кааліцыя, паменшала колькасць сродкаў з дзяржбюджэту на дзейнасць беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

— З прапаноў і заўваг, якія мы тут пачулі, на пасяджэнні камісіі ў Варшаве паўстане канцэпцыя дапамогі для сямі нацыянальных і этнічных меншасцей, якія жывуць на Падляшшы, — заявіла старшыня Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей **Данута Петрашэўская**.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Тэрыторыі, якія спрадвеку населеныя беларусамі, надта сонечнымі не назавеш. Хутчэй наадварот — на небе цэлы час нейкія хмары, якія закрываюць сонца, падае дождж, снег альбо цэлымі тыднямі стаіць пахмурнае надвор'е. Канешне, бывае і спёка, і засуха, і пячэ з неба, але, шчыра кажучы, здараецца такое радзей за хмары, аблокі і дажджы.

Праўда, людзі ў нашых шыротах навучыліся выкарыстоўваць нават кароткачасовае сонечнае надвор'е і ператвараць яго ў электрычную і цеплавую энергію.

Цяпер у свеце дастаткова фірм, якія не толькі прадаюць, але і ўсталёўваюць сонечныя батарэі на сценах і дахах. Але пакуль у інтэрнэце ўдалося знайсці адзіную фірму, што можа рабіць сваю справу па-беларуску. Выключна гэты чыннік абумоўлівае мэтазгоднасць распавесці аб ёй, адразу пазначыўшы, што пра якасць працы беларускамоўных лаўцоў сонечных прамянёў нам нічога не вядома.

Беларускамоўная вэб-старонка сайта аб вентыляцыі і ацяпленні з Даніі месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://by.solarventi.by**. Аб'ектам бізнесу прадстаўнікоў фірмы SolarVenti з'яўляюцца паветраныя сонечныя калектары — аўтаномныя сістэмы вентыляцыі і ацяплення, якія працуюць выключна ад энергіі сонца, без падключэння да электрасеткі. „Усе панэлі зроблены ў Даніі, а сама канцэпцыя сонечнай вентыляцыі распрацоўвалася вытворцамі з 1986 года. За гэты час больш за 60 000 SolarVenti былі ўсталяваны ў розных краінах свету. Мы пачалі працу нядаўна — крыху больш за паўгода і вырашылі стартаваць адразу з якаснага прадукту. Пасля падлікаў і назіранняў можам дакладна сказаць, што нават ва ўмовах беларускага клімату выкарыстанне SolarVenti дасць патрэбны эфект — сухасць і цяпло ў доме", — ганарліва сцвярджаецца на беларускамоўным сайце. Да гонару яго ўладальнікаў усе тэхнічныя паказчыкі абсталявання пазначаны па-беларуску.

Таксама там пазначаецца, што сістэмы SolarVenti выкарыстоўваюць сонечную энергію як для выпрацоўкі электрычнасці, так і для выпрацоўкі цяпла, і такім чынам яны забяспечваюць аўтаномную вентыляцыю і ацяпленне памяшканняў.

Віртуальнае прадстаўніцтва SolarVenti пабудавана згодна сучасных уяўленняў аб тым, якім павінен быць сайт. Выйсці на рубрыкі месяцца ўверсе цэлага выяўлення, але трапіць на гэтыя рубрыкі можна проста „пракручваючы" сайт зверху ўніз.

„Эфектыўная работа і працяглы тэрмін службы SolarVenti залежаць ад якаснай працы па мантажы і ўсталёўцы сістэмы. Па жаданні заказчыка, сістэма мантуецца пад ключ прафесійнымі мантажнікамі. Усе мадэлі можна размясціць як гарызантальна, так і вертыкальна. Важна прытрымлівацца тэхнікі бяспекі і ўважліва чытаць інструкцыю па мантажы. Пры неабходнасці можна ўсталяваць антывандальныя мацаванні", — рэкламуюць свае паслугі да дацкай прадукцыі беларускія майстры. Ніжэй на старонцы месціцца каталог прадукцыі фірмы, вырабы якой пасуюць да абагравання і вентыляцыі розных будынкаў і памяшканняў.

„Сонечны паветраны калектар вам прададуць і пракансультуюць па-беларуску, няма праблемы — тэлефануйце па пазначаным нумары. Толькі мантаж па-беларуску ажыццявіць наўрад ці атрымаецца, але мантаж — неабавязковая паслуга", — адзначаецца на сайце-каталогу беларускамоўнага бізнесу „Свае".

❖**Аляксандр ЯКІМЮК**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

## Падзеі і асобы БНР

# 20 гадоў з дня смерці Вітаўта Тумаша

Беларускі грамадскі дзеяч, медык, скарыназнаўца Вітаўт Тумаш нарадзіўся 20 снежня 1910 г. у вёсцы Спягліца (цяперашні Вілейскі раён). У час Першай сусветнай вайны сям'я была ў бежанстве на землях сучаснай Літвы. Там малы Вітаўт і пайшоў у школу, што дазволіла яму вывучыць і добра ведаць літоўскую мову.

У пачатку 1920-х гг. Вітаўт Тумаш вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, пасля яе сканчэння паступіў на медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Ужо ў той час рэдагаваў розныя беларускія выданні. Праз яго рукі прайшлі ўсе заходнебеларускія паэтычныя зборнікі Максіма Танка. „Танк мае здольнасці, а я — веды", — казаў пра гэта Тумаш. Ён жа адрэдагаваў і першую, пражскую, кнігу „Ад родных ніў" (1942 год выдання) Ларысы Геніюш, якая, віншуючы Тумаша з 60-мі ўгодкамі, напісала: „Першыя вершы — мае жураўлі, дзякую Вам за апеку. Дзякуй за тое, што другам былі, што заўсёды былі чалавекам".

Напярэдадні 1939 г. пасля заканчэння ўніверсітэта, разам з доктарам Міколам Шчорсам, Тумаш быў на Валыні на практыцы. З пачаткам Другой сусветнай вайны, не хочучы патрапіць да Саветаў, на роварах з'ехаў на Захад. Затрымаўся ў Заходняй Беласточчыне, пасля некаторы час жыў у Лодзі. У 1940-1941 гг. Вітаўт Тумаш стаяў на чале лодзінскага аддзела Беларускага камітэта самапомачы. Перыядычна выязджаў у Берлін. Актыўна супрацоўнічаў з многімі беларускімі арганізацыямі, друкаваўся. Рэдагаваў беларускую газету „Раніца" — асяродак беларускіх патрыётаў у Нямеччыне. Пасля пачатку вайны паміж Нямеччынай і Савецкім Саюзам вярнуўся ў Беларусь. Пад пагрозаю змушаны з ліпеня да лістапада 1941 г. працаваць бургамістрам Мінска (у чэрвені 1941 г. арыштаваны ў Берліне і прывезены ў Мінск з катэгарычным загадам стварыць адміністрацыю горада). Вызначыўся на пасадзе бургамістра тым, што, апрача разбудовы нацыянальнага жыцця, як доктар па атрыманай прафесіі, рашучымі дзеяннямі спыніў пашырэнне эпідэміі па Мінску.

У 1943 годзе Вітаўт Тумаш выехаў у Германію, быў рэдактарам берлінскай газеты „Раніца". Пасля вайны працаваў недалёка ад Беларускага лагера для перамешчаных Ватэнштэт. Удзельнічаў у бальшыні культурна-палітычных мерапрыемстваў лагера і арганізацыі беларускае эміграцыі.

Пазней выехаў у ЗША. Там заснаваў Беларускі інстытут навукі і мастацтва (БІНіМ) і стаў ягоным старшынёй. Адзін з выдатных даследчыкаў і заснавальнікаў навуковага скарыназнаўства. На базе БІНіМа выдаваў часопісы „Запісы БІНіМ" і „Конадні". Ягоныя глыбокія, а часам сенсацыйныя публікацыі па жыцці і дзейнасці Скарыны (яны часта друкаваліся пад псеўданімам Сымон Брага) у БССР замоўчваліся і хаваліся. Найбольш вядомыя працы Тумаша — „Скарына ў Падове", „Кнігі Скарыны на захадзе Эўропы ў пару ягоную і сяньня". Вянцом жа саракагадовай працы даследчыка стаў выдадзены ў ЗША грунтоўны даведнік „Пяць стагоддзяў Скарыніяны. XVI-XX", дзе пададзеныя больш за 2500 пазіцый-артыкулаў. Прэзентацыя гэтай кнігі адбылася ў Нью-Йорку, калі аўтар з савецкім кляймом „калабарацыяніста" змог ужо атрымаць віншаванні і з Беларусі.

Памёр Вітаўт Тумаш раптоўна 30 красавіка (ва ўспамінах Раісы Жук-Грышкевіч падаецца іншая дата — 27 красавіка) 1998 года ад кровазліцця ў мозг. Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку ў амерыканскім Нью-Джэрсі.

❖**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# XXXVII Międzynarodowy Festiwal Muzyki Cerkiewnej „Hajnówka 2018” w Białymstoku

# PROGRAM FESTIWALU

Miejsce: Opera i Filharmonia Podlaska, Białystok, ul. Podleśna 2

**INAUGURACJA FESTIWALU 16 MAJA 2018 r. godz. 19.00**

**OTWARCIE FESTIWALU**

**KONCERT INAUGURACYJNY**

w wykonaniu

**Akademickiego Chóru Kameralnego „Chreszczatyk” z Kijowa (Ukraina)**

## KONCERTY - PRZESŁUCHANIA KONKURSOWE

**17.05.2018 (czwartek) godz. 17.00**

1. Męski Chór Diecezjalny – Koszyce (Słowacja)
2. „Mały Chór Bazylego Wielkiego” – Kijów (Ukraina)
3. Żeński Chór „Christina Morfowa” – Sofia (Bułgaria)
4. Chłopięcy Chór Gimnazjum - Koledżu przy Państwowej Akademii Muzyki – Mińsk (Białoruś)
5. Młodzieżowy Chór „Annino” – Moskwa (Rosja)
6. Chłopięcy Chór Męskiej Kapelły Chóralnej im. L. Rewuckiego – Kijów (Ukraina)
7. Chłopięcy Chór „Ąžuoliukas” – Wilno (Litwa)
8. Chór Państwowego Uniwersytetu Kultury - Krasnodar (Rosja)
9. Chór Państwowego Koledżu Muzycznego im. M. Glinki - Mińsk (Białoruś)
10. Chór Narodowej Akademii Muzyki – Odessa (Ukraina)

**18.05.2018 (piątek) godz. 17.00**

1. Chór Parafii Prawosławnej - Homel (Białoruś)
2. Chór Uczelni Teologicznej – Smoleńsk (Rosja)
3. Chór Parafii Prawosławnej – Włodzimierz (Rosja)
4. Młodzieżowy Chór Szkoły Chóralnej – Konakowo (Rosja)
5. Chór „Ave Musica” Chrześcijańskiego Uniwersytetu Humanitarno - Ekonomicznego – Odessa (Ukraina)
6. Zespół Muzyki Cerkiewnej „Kliros” – Olsztyn (Polska)
7. Chór “Stars” Gwardii Narodowej Republiki Łotwy – Ryga (Łotwa)
8. Akademicki Chór “Bielaja Wieża” Państwowej Politechniki Brzeskiej – Brześć (Białoruś)
9. Akademicki Chór Centrum Kultury – Wielki Nowgorod (Rosja)
10. Warszawski Chór Międzyuczelniany - Warszawa (Polska)

**19.05.2018 (sobota) godz. 15.00**

1. Koptyjski Chór „St. Kyrel” – Londyn (Wielka Brytania)
2. Żeński Chór Metropolii St. Petersburg - St. Petersburg (Rosja)
3. Męski Zespół Wokalny „Kairos” – Lublin (Polska)
4. Kameralny Chór „Swietocz” – Mińsk (Białoruś)
5. Chór „Ars Cantandi” Uniwersytetu Ekonomicznego – Wrocław (Polska)
6. Męski Zespół Śpiewu Cerkiewnego „Partes”- Poznań (Polska)
7. Prawosławny Chór „Theotokos” - Bejrut (Liban)
8. Kameralny Chór „Sofia” – Kijów (Ukraina)
9. Kłajpedzki Chór „Aukuras” – Kłajpeda (Litwa)
10. Państwowy Chór Naddniestrzański – Tyraspol (Mołdawia)

**ZAKOŃCZENIE FESTIWALU 20.05.2018 (niedziela)**

**godz. 14.00 - WERDYKT JURY I WRĘCZENIE NAGRÓD godz. 16.00 - KONCERT GALOWY**

## Адгаданка

**1.** самалёт, якому аэрадромам можа быць вадаём, **2.** горад на Дняпры паміж Гомелем і Бабруйскам, **3.** Вільгельм, першы сакратар ЦК КПБ у 1927-1928 гадах, **4.** кавалак бервяна на паліва, **5.** Міхал Клеафас, аўтар паланеза „Развітанне з Радзімай”, **6.** дзяржава фараонаў, **7.** трэцяя ад канца літара лацінскага алфавіта, **8.** палеская рака, **9.** род аптычнага шкла са сферычнай паверхняй, **10.** маці жонкі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | | | | | | | | |
| | 2 | | | 3 | | | | | | 4 | | | | |
| | | | 5 | | | | 6 | | | 7 | | | | 8 |
| | | | 9 | | | | | | | | | 10 | | |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 15 нумара**

Бок, веер, дуга, лоб, селішча, таз, язда.

Рашэнне: **Чалавек без друга што яда без солі**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 06.05 — 12.05

**(22.03. — 20.04.)** Лёгка не будзе, але пераможаш усе перашкоды. Пасля інтэнсіўнага высілку чакае цябе салодкая ўзнагарода. Зробіш добры інтарэс, будзеш мець добрыя кантакты. Хтосьці моцна стараецца за тваю ўвагу. Рабі рамонт дома. На спіне адчуеш подых канкурэнцыі, да цябе нават не дагоняць. Выходзь, але не стукай дзвярыма. З 11.05. можа цябе чакаць непрыемная размова. Справішся з абавязкамі прыпяваючы, асабліва там, дзе патрэбная воля і адвага. Выйдзі з віртуальнай рэальнасці.

**(21.04. — 21.05.)** Добры момант для дзейнасці. Мноства энергіі. Не можаш прайграць! Ані страціць! У пастаянных парах спакой і многа мілых хвілін. Самотны Бык сустрэне кагосьці вартага граху. Выходзь, балюй, прымай гасцей. Бык з трэцяй дэкады мае найбольшае шчасце да людзей. Але 6-10.05. не ацэньвай нікога, асабліва па выглядзе і на першы пагляд, бо можаш вельмі памыліцца. 7-11.05. можаш апынуцца пад чыімсьці націскам.

**(22.05. — 22.06.)** 6-8.05. убачыш шанцы, каб на кімсьці адыграцца, хто табе добра залез за скуру. Да 12.05. мноства інтэлектуальных заняткаў і гульняў. Будзеш вельмі прыцягальным для іншага полу. Для партнёра будзеш асабліва вабным. Калі нарадзіўся ты ў трэцяй дэкадзе, падумай аб уласным бізнесе. 6-8.05. можаш спраўна кінуць кепскія звычкі, асабліва нікатынізм.

**(23.06. — 23.07.)** Не спяшайся з рашэннямі, здайся хутчэй на добрыя выпадкі. У тваіх адносінах мяшае Марс у апазіцыі, але трыгон Юпітэра паможа табе пераможна выблытацца з турбот. 6-10.05. — найгоршы момант на любоўныя рашэнні (пачакай да 19.05.). Досыць кепскі час для адносін, найлепш зробіш не ангажуючыся ў канфлікты, не слухаючы плётак. З 11.05. можаш расчаравацца ў кімсьці, каго меў за сябру. Доўг з 7-11.05. прыйдзецца сплаціць (24-28.05.). Мноства работы, старайся пра нішто на забыцца.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш амбітны і крыху нецярплівы. Справы складуцца няблага. 6-10.05. можаш сустрэць асобу, якая салжэ пра свой грамадзянскі стан; магчымы раман, але без будучыні. Пытайся ў блізкіх, што думаюць пра розныя справы. На працы яшчэ не высоўвайся да першага шэрагу. Выбірайся на прыроду. З 10.05. можаш пазнаёміцца з людзьмі, на якіх заўсёды можна разлічваць. 7-11.05. не старайся за ўсю цану даказваць, што ўсё ведаеш лепш.

**(24.08. — 23.09.)** 5-9.05. адважышся здзейсніць адну са сваіх мар. Знойдзеш выхад з кожнай сітуацыі. Хаця цяпер ты лішне ўражлівы і нервовы. 6-8.05. могуць да цябе трапіць трывожныя весткі. Калі сам будзеш патрабаваць дапамогі, паведамі аб гэтым блізкіх. Сардэчныя справы — твая спецыяльнасць, асабліва 6-10.05. Ёсць рызыка, што прачнешся побач мала вядомай асобы! Асобы, якіх падвёў былы партнёр, могуць на ім адыграцца 11-13.05. Можа, лепш пакінуць мінулае, а засяродзіцца на будучыні? І сям'я можа адчуць у гэты час, што пакінуў ты яе на бакавых пуцях.

**(24.09. — 23.10.)** Ты цяпер моцны не на жарты працаўнік, прытым поўны красы. Шмат любоўных прапаноў! З 11.05. у парах, нават згодных і шчаслівых, магчымы крызіс з падкусваннем і кепікамі. Калі хочаш, каб на працы былі лады, мацней ангажуйся ў работу і кампанейскія адносіны з калектывам.

**(24.10. — 22.11.)** Усё залежыць ад цябе. 5-9.05. удадуцца рамантычныя сустрэчы. У пачуццях многа зменіцца на лепшае. Не турбуйся перад першымі сустрэчамі — усё пойдзе ўдала. Сябры пакуль маюць для цябе мала часу. Цяпер лепш добра і свабодна праводзь час, не перанапружвайся. Парабі вакол сябе парадкі. З 11.05. хтось увойдзе табе ў дарогу і перакрыжуе планы; таксама не рызыкуй з інвестыцыямі.

**(23.11. — 22.12.)** Пакуль запаволь тэмп жыцця. Важныя справы і так удасца табе добра вырашыць. 6-10.05. штосьці можа табе замыліць вочы — не разлічвай, што ўдасца табе змяніць новага партнёра. Не дай сябе ўцягнуць у розыгрышы і канфлікты з 11.05. Больш адпачывай, набірай сілы, правер ціск крыві.

**(23.12. — 20.01.)** 5-9.05. новыя зацікаўленні і знаёмствы з цікавымі людзьмі. 6-10.05. зважай, каб не зрабіць фальшывага кроку; шыкуюцца любоўныя пасткі. Глядзі, каб цябе не выкарысталі (асабліва калі ты народжаны ў II дэкадзе). З 11.05. не рабі нічога на сваю шкоду. Старайся самадысцыплінавацца.

**(21.01. — 19.02.)** Усё ідзе ў добрым напрамку. Адважныя энергічныя дзеянні насупраць перашкодам. Але 7-11.05. поспех чакае тваіх праціўнікаў. У пачуццях пачакай з дэкларацыямі. Адпачынак ад прафесійных праблем знойдзеш дома. Пераканаешся, што там цябе шчыра кахаюць і любяць. Сустрэчы з сябрамі, прыяцелямі, у выпадку начных мерапрыемстваў не шкадуй грошай на таксі! Настрой паправіць фізічны высілак.

**(20.02. — 21.03.)** 6-9.05. выявяцца твая творчасць і фантазія. 7-11.05. выйдзеш з ценю і прамовіш моцным голасам. Але 6-10.05. могуць выявіцца таксама скрываныя сакрэты і памылкі. Вырашальны час для пары ў крызісе. На працы пашырай веды, правярай сябе на новых палетках.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

**24 красавіка ў Падляшскай ваяводскай управе адбылося выязное пасяджэнне Сеймавай камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей. Пасяджэнне вяла старшыня камісіі Данута Петрашэўская. Напачатку заявіла яна, што справы нацыянальных меншасцей цікавяць усіх членаў камісіі, і некаторыя з іх прыехалі, каб паслухаць пра праблемы і спадзяванні, просьбы і прапановы меншасцей. У іх ліку Шыман Гіжыньскі — віцэ-старшыня камісіі, Рышард Галя — віцэ-старшыня камісіі, Анна Ціхольская, Эва Калодзей, Богдан Лятасіньскі, Кшыштаф Глухоўскі і Тамаш Цімашэвіч. Прысутнічалі таксама падляшскі ваявода Богдан Пашкоўскі, намеснік дырэктара дэпартамента па справах веравызнанняў і нацыянальных меншасцей МУСіА Тэрэса Карчмарэк, падляшская куратар асветы Бэата Петрушка і іншыя.**


■ Рышард Галя, Богдан Пашкоўскі, Данута Петрашэўская і Шыман Гіжыньскі

# Пра меншасці ў Беластоку


■ Януш Александровіч і Ян Сычэўскі

Богдан Пашкоўскі падкрэсліў, што наша ваяводства нясе ягелонскую спадчыну шматкультурнасці і нацыянальнай разнароднасці. Заўважыў, што ў сумежных памяшканнях ваяводскай управы адбываецца Фестываль культур, у якім удзельнічаюць і прадстаўнікі мясцовых меншасцей. Традыцыяй нашага ваяводства з'яўляецца адзінства грамадства і намагаемся ладзіць тут супольную радзіму нашых грамадзян. Прадстаўніцтва розных культур у нашым ваяводстве здаецца быць найбольш багатым у маштабе краіны.

Тэрэса Карчмарэк паінфармавала, што на тэрыторыі Падляшскага ваяводства пражывае сем нацыянальных меншасцей магутнасцю звыш 47 тысяч грамадзян, што складае 4% насельніцтва ваяводства; гэты паказчык у чатыры разы большы за сярэдні такі паказчык у маштабе краіны. У дзесяці гмінах ваяводства прынамсі 20% насельніцтва складаюць меншасці, дзе можна ўводзіць дапаможную мову. Найбольшы адсотак меншасцей у Чыжоўскай гміне — 76,5%... Гэтыя паказчыкі з 2011 года, калі быў праведзены агульны перапіс насельніцтва. Цікавае тут супастаўленне бюджэтных выдаткаў на падтрымку беларускай культурнай тоеснасці: у 2013 годзе было гэта звыш 2200 тысяч злотаў, у 2014 годзе — звыш 2384 тысяч, у 2015 годзе — звыш 2715 тысяч, у 2016 годзе — звыш 2480 тысяч, у 2017 годзе — амаль 2338 тысяч, сёлета — амаль 1630 тысяч злотаў; апошняя квота мае быць узбуйнена...

Пра адукацыю нацыянальных меншасцей расказала падляшская куратар Бэата Петрушка. Міністэрства дафінансоўвае падручнікі для навучання меншасцей. Выдаваннем падручнікаў для беларускай адукацыі займаюцца Згуртаванне АББА і Фонд імя князя Канстанціна Астрожскага.

Прадстаўнік ромскай меншасці заўважыў, што ромскія дзеці ў выніку недастатковага ведання польскай мовы часта трапляюць у спецыяльныя школы, куды іх кіруюць педагагічна-псіхалагічныя кансультацыі, у якіх няма інструментаў для апытвання ромскіх дзяцей. У Польшчы замала асоб, якія маглі б навучаць польскай мове, як другой мове. У школах замала асістэнтаў ромскай адукацыі, няма іх у ліку школьных штатаў.

Прадстаўніца яўрэйскай меншасці панаракала на адсутнасць памяшкання.


■ Анна Ціхольская, Эва Калодзей і Тамаш Цімашэвіч

Прадстаўнік татарскай меншасці заклікаў да аховы татарскіх могілак. Ваявода абяцаў зацікавіць гэтымі справамі адпаведныя органы.

Станіслаў Станкевіч ад імя ромскай меншасці прасіў памятаць пра прызнаныя ЮНЕСКА ромскія святы: 5 лістапада Дзень ромскай мовы і 8 красавіка — Міжнародны дзень ромаў. Згадаў таксама пра розныя маршы, якія наклікаюць на ромаў трывожныя асацыяцыі з фашызмам і неафашызмам. Меншасная грамадскасць асабліва ўстрывожана і таму ціха нагадвае пра некаторыя з'явы. Такую трывогу выказала таксама прадстаўніца яўрэйскай меншасці, якой прозвішча называлася ў ходзе гэтых маршаў як асобы варожай Польшчы.

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП, звярнуў увагу на праблему адукацыі большасці пра меншасці ў школах Падляшскага ваяводства, так у школах, дзе меншасці ёсць, як і ў школах, дзе іх няма. Прасіў таксама, каб інфармацыі пра навучанне беларускай мовы былі даступныя на партале Падляшскай кураторыі асветы. Таксама карысна было б, каб польская моладзь знаёмілася са шматкультурным Падляшшам. Звярнуў таксама ўвагу на герб Беластока і патрэбу азнаямлення маладога пакалення з прысутнасцю на ім не толькі Арла, але і Пагоні. Пра патрэбу адукацыі пра татарскую меншасць згадвалі таксама і прадстаўнікі гэтай меншасці.

Яўген Чыквін, які шмат гадоў як дэпутат Сейма працаваў у карысць меншасцей, падзякаваў членам камісіі за зацікаўленне справамі меншасцей. Бо пра меншасці не заўсёды вядома большасці. Прыгадаў, што яшчэ ў пачатках сваёй працы ў Сейме ставілася пытанне, ці грамадзянін Польшчы мае права акрэсліць сваю нацыянальнасць іншую чым польская. Былі такія дэпутаты Сейма, якія лічылі, што меншасці ў выніку розных міждзяржаўных дамоў, напрыклад немцы ў выніку пагадненняў Герка з уладамі ФРГ, павыязджалі з Польшчы.

З гадамі адбыліся станоўчыя змены ў менталітэце грамадства, заўважыла старшыня камісіі Данута Петрашэўская.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 18